УДК 821.161.3-1
ББК 64(4Беи)-5
А41

*Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў».*
*Выпуск 18.*
*Заснаваная ў 2006 годзе.*

**Аксак, В.**
А41 Дзікая сліва : вершы / Валянціна Аксак. — Мінск : Кнігазбор, 2015. — 104 с. — (Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў»; вып. 18).
ISBN 978-985-7119-95-0.

Новая кніга Валянціны Аксак – гэта свет несвядомай прыроды, першароднага граху і безабароннай душы. Свет, у якім згубіліся словы і знайшоўся сэнс. «Дзікая сліва» – шостая кніга паэткі, у якой валадарыць шостае пачуццё.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 64(4Беи)-5**

**ISBN 978-985-7119-95-0**

## РАЗУМЕЕ

Уваходзячы ў сад,
нізка голаў схіляю,
кланяюся і прашу,
каб дазволіў пабыць
у ягоных шатах.
Гладзіць галінамі рукі,
казыча карэннямі ногі,
упрыгожвае лістотай валасы,
атуляе водарам сэрца,
наталяе цішшу душу.
Разумее.

## *У СІНАЙСКІМ КВЕТНІКУ*

Аднойчы
я да цябе
не прыеду.
Паўцвярозыя сваякі
цела майго не знойдуць.
Патэлефануюць табе
ў хмельнай шчырасці –
узнеслася.
Але ж ты ведаеш,
што згуба твая –
звычайная грэшніца,
якая проста заснула
ў гушчэчы
Сінайскага кветніка.

## *УСПЕННЕ*

Жыццё пайшло далей
за ўквеленыя ружы,
гартэнзіі згарэзіла,
клемацісы паблытала
і перасцігнула
асцільбы,
прытомлены лужок лілеяў,
чародку перасохлых флоксаў
і табунок здзічэлых анемонаў.
Адно яшчэ непераможна
вейкі мружыць,
халодным вокам гледзячы
на хрызантэмы,
што горда вытыркаюцца
квяцістай плямай
на красе мінулай.

## *ДЗЕНЬ НАРОДЗІНАЎ*

Свеціць
смаліцкае сонца,
п’ю
шведскую каву
ў кампаніі
рэмантантных ружаў,
дзесьці ў Менску
спяць
мае каханыя мужчыны,
і прывід
самотнай красуні
сёння ноччу
абмінуў
мой сад.

## ЧАС ДЛЯ КАВЫ

На досвітку
ўжо спыняецца
дзея закону
і яшчэ не ўступае
ў свае правы
мараль.
Бязлюддзе.

## СМАЛІЧЫ

Прастора – да лесу.
Ціш – да нябёсаў.
Маўклівасць – да ветру.
Свабода – да чалавека.

## *ДЗІКАЯ СЛІВА*

Калючкай з цярноўніку,
у які быў убраны
Цар Юдэйскі,
адарылі Карла IV,
карануючы на валадара
Вялікай Рымскай імперыі.
Пэўна, таму
так балюча джаляць мяне
смаліцкія спадкаемцы
палестынскае дзікае слівы,
якіх спаміж ружаў
выдзіраю няшчадна,
не прызнаючы
іхняе святасці.

## *РЭЎНАСЦЬ РУЖАЎ*

Зняверaная табой
дашчэнту,
не прывучаная да іх веры
дзецьмі,
маю тое,
што маю –
друідную веру ў расліны.
І яны ў мяне верaць,
чакаючы цярпліва
з розных вандровак.
Ведаюць,
што не забудуся на іх,
нават калі дзе й загуляю,
то ўсё роўна вярнуся
ў абдымкі
лагодных півоняў
і ў пасцелю
прымхлівых стакротак.
І толькі ружы
будуць раўнаваць
і джаліць адчайна
за любошчы
з чужынкай асцільбаю
і вокамгненны флірт
з фарсуняй старой
фізастэгіяй.

## *ХТОСЬЦІ*

Калі ты прайшоў
паўз ружу,
не шукай яе болей.
Хтосьці ўжо
мілосціцца з ёю.

## *ЯНЫ – ТУТ*

Хата стогне
бацькавай роспаччу,
печ пакутуе
мамінай немаччу,
сад свіціцца
дзедавым гумарком,
кветнік буяе
бабінай весялосцю.

## *КАЛІ ХОЧАЦЦА*

Калі хочацца шчасця на дзень –
напіся віна.
Калі хочацца шчасця на тыдзень –
засмаж індыка.
Калі хочацца шчасця на месяц –
выйдзі замуж.
Калі хочацца шчасця на век –
гадуй кветкі
ў бацькавым садзе.

## ЦЭЙТНОТ

Ад красавіка да кастрычніка
корпаюся ў кветніках
у спадчынным садзе,
а затым усю зіму
гадую флянсы ў вазонах,
і няма ў мяне часу
засушваць гербарый.

## *ТРЭЦІ ЛІШНІ*

Як толькі дэльфініюм
перабраўся
ў далейшую кветніцу,
адразу ўлагодзілася
палітра
гэтага дня
і можна спакойна
сумоўнічаць
з чародкаю
ўпэўненых ружаў
на сцененым азярцы
трымцлівых асцільбаў.

## СЯБРОЎКІ

Пазбягаю сустрэч
са старымі знаёмымі,
бо яны,
мяне не слухаючы,
безупынна апавядаюць
пра свае хваробы
і праблемы з дзецьмі,
пасля чаго нядужае
ўся мая радзіна.
Пазбаўляюся сяброваак,
тых,
якія калісь слухалі
пра мае болькі
і радаваліся,
і тых,
якія не радаваліся,
але забіралі
маіх каханых.
Застаюся сама –
пры кветках,
якія слухаюць,
чуюць,
маўчаць,
і птушках,
якія ўсе мае беды
крыламі разводзяць.

## КАЛІ

Калі цябе
не пускае ў адведкі
да роднага бацькі
родная сястра,
калі табе
не дазваляе пагушкаць
роднага ўнука
родны сын,
толькі і застаецца,
што кінуцца ў абдымкі
да роднае зямлі.

## ДАЛЁКА Я

У садзе чалавек
бліжэй за ўсё
да Бога, –
мяркуюць мудрыя.
Мой сад
усё ніжэе да зямлі –
ні праштурхнуцца
па зламаным вецці.
Мой Бог
усё вышэе да нябёсаў –
ні ўгледзець
з-за згусцелых хмараў.

## *ДОБРЫЯ НАВІНЫ*

У навінах
пра кампутары,
гаджэты
ды ўсялякую іншую дрэнь
пачула й нешта
суцяшальнае
для маёй
адсталай душы –
садаводаў
робаты
не заменяць.

## *ЧУЖЫЯ КАМЯНІ*

Камяні перад ганкам
змянілі аблiччы.
Рвалася да іх –
родных,
а сустрэлі –
чужыя.

## ЧУЖАНІЦА

Мой сад –
гэта свойская жывёла,
якая дзічэе
ў суме па мне
і ператвараецца ў чужаніцу,
мерачыся ўцячы
ў непралазны лес.

## *ЧОРНЫ САД*

Ну вось і ўсё –
свячэнне саду
знікла назаўсёды,
восень чорнай фарбай
прайшлася па галінах
і новая вясна
не знойдзе колераў
для родных яблынь –
бацька стаў
да скону
невідушчы.

## *ЗАХОПНІК*

Зарасце, – казаў бацька, –
лопухам да ганку,
бур'ян пойдзе
цераз парог
і будзе гаспадарыць
на падлозе,
столках,
сталох
і нават на вокнах.
Я дзівілася
з ягоных прагнозаў
і злавалася,
што так дрэнна
думае пра нас,
руплівых дачок
і адданых унукаў,
якія вельмі любілі
гадавацца
ў дзедавым садзе.
Ды вось жа спраўдзілася
прароцтва ягонае
яшчэ і пры ім самім.
У адным толькі ён памыліўся –
не лопух свойскі бяскрыўдны
і не бур'ян абыякі тутэйшы,
а жорсткі чужынец з Каўказу,
баршчавік,
захапіў нашу хату
і няма ў нас ніякае рады
знішчыць яго.

## АДНОЙЧЫ

Аднойчы я такі прачнулася
ад скрыгату спружынаў
у бацькоўскім ложку.
Столькі вёснаў адсвяціла
з тое ночы,
адкрасавала столькі летаў,
восеняў адбагацела столькі,
а рып той здрадлівы
ніводзін грозны гром,
ніводная шалёная віхура,
ніводны роспачны
перадсмяротны крык
не заглушыў
у помслівых вушах.

## *МАМІНА СУКЕНКА*

Кажаш,
у гэтай сукенцы
я была падобная
да гераіні
«Рымскіх канікул».
Не,
я – толькі цень тае,
якая ўпершыню
прымерала чароўнасць
зялёнага ядвабу
ў няўлоўных рысах
простага фасону
смаліцкае краўчыхі.
Апрані мяне
ў гэтую сукенку
на развітанне,
каб мама хутчэй
там
мяне пазнала.

## ПЕРШАЯ

Пятніца.
Пост.
Бацька пайшоў назаўсёды.
Саступіў мне чаргу
каля вечнасці.
Цяпер я –
першая.

## *РОСПАЧ*

Плачу,
захлынаючыся ад роспачы, –
святар адпявае бацьку
не той мовай,
якою ён жыў,
і я не магу перайначыць
словы чужынскія
над роднай магілай.

## ТЫЛ

Прытулілася спінай
да бацькоўскае хаты –
адчула цяпло,
зразумела нарэшце
сэнс слова тыл
у той дзень,
як яго
назаўжды
страціла.

## ДЗЕНЬ БЛАКІТНЫХ БАЦЬКОЎСКІХ ВАЧЭЙ

Так не бывае.
Але так адбылося.
Я не ведаю,
чым гэты дзень адметны
паводле грыгарыянскага,
юліянскага,
ці якога ўсходняга календара.
У мяне,
як высветлілася,
свае пачаткі ліку.
22 лютага 2006 году
апошні раз я бачыла
маміны жывыя
блакітныя вочы.
Праз дзевяць гадоў
усё паўтарылася з бацькам
дакладна ў гэты дзень.
Вось так і з'явілася дата,
якую, пэўна, назаву
Дзень блакітных бацькоўскіх вачэй.

## ВЫПРАБОЎВАЮ ВЕЦЕР

Роўненька
праз сорак дзён,
як бацька цялесны
пакінуў мяне назаўсёды,
сілы нябесныя
забралі майго
айца духоўнага.
Стаю ў аголеным полі –
выпрабоўваю вецер.

## *ЗАПОЗНЕНАЯ*

Заўчасна
нараджаецца ўнучка,
заўчасна
памірае бацька,
заўчасна
старэе муж.
Толькі я
запозненая
тут,
у незнаёмым скверы
з мроямі маладымі
і пляшкай старога віна.

## *СЁМЫ ГРЭХ*

Келіх.
Яшчэ і яшчэ
тройчы па тры.
Безуважнасць да меры.
Бязважкасць да стану.
Мройнасць – да непрытомнасці.
Часовы нябыт – да бясчасся быцця.

## ТРЫ СПОСАБЫ

Тры способы вернасці –
самота,
вар'яцтва,
смерць.
Толькі ў трэцім не пэўная.
Пакуль што.

## НЕВЯСЁЛАЯ

Быць вясёлым –
ветліва.
Ізноў адкрыццё
пра сябе –
невясёлую.

## ДЫСГАРМОНІЯ

Вычытала ў Сімоны Вэйл,
што супераажыванне –
самая вялікая мужнасць.
Дык вось яно як!
А я ж меркавала,
што маю імя
ў поўнай гармоніі
з сутнасцю.

## АДГАДКА

Кветкі й матылі
афарбованыя
ў зыркія колеры
дзеля адной мэты –
сэксу.
Дык вось чаму я
не апранаюся
ў чырвонае.

## ТРЫ КОЛЕРЫ

Тры колеры шэрага –
пыха,
пагарда,
панурасць.
Каб падкрэсліць палітру,
Бог афарбіў мае зрэнкі
зяленівам.

## *ЦЕНЬ І ВОДАР*

Выбіраюць –
не чалавека,
і тым больш –
не жанчыну,
а ўсяго толькі –
узмах веек,
цень усмешкі
і водар флюідаў.
Найчасцей –
супрацьлеглы.

## *УСІХ*

Жанчына –
асалода Бога.
І ён у мяне –
адзіны.
Мужчына –
валадар Сонца.
І ён,
як і яно,
асвятляе
безліччу промняў
усіх,
хто патрапіцца.

## МУЖЧЫНЫ ЎСЕ

Бог адзіны
і вера адна,
людзі розныя –
міласэрнікі,
стоікі,
тэрарысты.
Зрэшты,
тое –
пра жанчын,
мужчыны ўсе –
мусульмане.

## *КУДЫ?*

Ты з'ехаў у горад,
які я ненавіджу.
Табе ж там добра.
І я змушаю сябе
палюбіць
тое збродлае месца.
Сёння –
атрымалася.
Але куды ад сэрца
адлучылася душа?

## З ВАЧЭЙ ДАЛОЎ

Адплываеш.
Адплыў
на новую выспу,
адкуль мяне
ўдзень не бачна,
адно бераг
майго мацерыка
не перастае
табе сніцца
штоночы.
А думаў,
што праўдзівая прымаўка –
з вачэй далоў...

## ЗНОЎ БЯССОННЕ

Калісьці не спала –
без цябе,
цяпер не сплю –
з табою.

## РОЗНЫЯ СНЫ

Як зэкі,
спімо па чарзе,
і нам сняцца
розныя сны
пра адзін і той жа
ўтульны наш ложак.

## *ЗАБУДЗЬСЯ*

Я засуджаная табой
да пажыццёвага тэрміну,
і амністыі
мой артыкул
не падлягае.
Забудзься.

## *РАЙ*

Сорак гадоў таму
ты паклікаў мяне ў край,
дзе манна нябесная,
рэкі малочныя
і кісельныя берагі.
Куламеса з разлезлых фігаў
сталася тым кісялём,
малаком апынуўся сок
недаспелых алівaў,
ну а манну салодкую
то ўвогуле
выпрабляла на раніцу тля,
з вечара пераеўшы нектару
з кустоў тамарыску.
Вось такі ў нас з табою рай.
Як за часы Майсея.

## схоў

За сцены,
за дзяцей,
за кветкі,
за сціло –
за што толькі
не хавалася
ад цябе.
Цяпер
мой схоў
надзейны.
Я – у сабе.

## НЯЦЯМА

Не ўбачыла,
як спыніўся ліцца
пругкі дожджык з крану,
не адчула,
як захінулася ў твой
скалянелы ручнік.
Несвядомыя рухі рук.
Выпадковая зблытанасць рэчаў.
Імгненне кунежнай няцямы
ў даўно спарадкаванай
і звыклай уцямнасці.

## РАЎНАВАГА

Колькі ў цябе
было мужчынаў
да майго бацькі? –
спытаўся падлеткавы сын.
Напэўна, столькі,
колькі жанчынаў
было ў твайго бацькі
пасля
твайго нараджэння –
прамаўчала ў адказ.

## ПРЫШЭСЦЕЎСМЕШКІ

Колькі заходаў
ты цешыўся
ў чужых ложках –
столькі світанкаў
плакалі
твае дзеці
ў забытых калысках.
Колькі імёнаў было
ў тваіх выляжанак –
столькі назваў хваробаў
знайшлося
ў тваіх унукаў.
Колькі зімаў
ты абыходзіў
родную хату –
столькі летаў
натолішся болем
на шпітальных пасцелях.
Карма? Кара? Кон?
Не пераймайся назовам,
а папрасі лекара
згатаваць акавіту
з красак,
стаптаных з чужынкамі,
і слёз родных дзяцей,
ды пі па тры кроплі
аж да прышэсця ўсмешкі
на каханы некалі твар.

## *МАРНАСЦЬ*

– Хачу клапаціцца пра мужа!
– Ды хто ж табе, жонка,
ахвяруе сябе?
– Хачу даглядаць дзяцей!
— Ды хто ж з нас, маці,
застанецца з табой?
– Хачу гадаваць унукаў!
– Ды хто ж табе, бабуля,
даверыць іх?
– Хачу вырошчваць кветкі!
– Каму ж, кабета,
патрэбныя яны?

## *ГРАФІКА*

Гляджуся ў люстэрка
і заўважаю,
як жывапіс
ператвараецца
ў графіку.

## *ЯШЧЭ ЦІ ЎЖО?*

Шчасце сталасці,
калі табе
нічога не трэба
ад дзяцей
і яны без цябе
цудоўна абыходзяцца, –
кажа празаік
Віктар Казько.
Ці я яшчэ не сталая?
Ці ўжо няшчасная?

## *ЛЕПЕЙ?*

Каханне здарылася.
Дзеці выгадаваліся.
Кніжкі надрукаваныя.
І мама жывая.
Хіба бывае лепей
на шляху
за шэсцьдзясят вёрстаў
ад зямлі да неба?

## *60 – ЯК 16*

60 –
гэта не тое,
што 50,
калі заўтра вітаць
шчэ крыху страшнавата,
і, канечне,
не тое,
што 40,
калі глянуць наперад упэўнена
моцна баішся.
Ну і 60 –
гэта зусім не тое,
што ў два разы меней,
калі вусціш пражытых гадоў
жахае да непрытомнасці.
60 – як 16.
Бяздумна.
Бязмэтна.
Шчасліва.

## *ЯК?*

Усе жанчыны
рана ці позна
пачынаюць раўнаваць
сваіх дачок.
Усе мужчыны
рана ці позна
пачынаюць зайздросціць
сваім сынам.
Дачок Бог не даў.
У мужчыну не перавярнуся.
То як мне праўдзіць
гэтую сентэнцыю
амерыканца Генры Менкена?
Захаваць у трымценні
душэўныя шалі да часу,
калі ўнучка
пацвельваць пачне
сваю маму?
Дажыць у цвярозасці розуму
да яснага дня,
калі ўбачу ўзмужнелага ўнука
пры сыне ягоным дарослым?
Нерэальна?
То як мне ўміраць без гэтае веды?

## ТАЎРО

У хвіліну
наймацнейшага гневу
ты выгукнула:
па-э-тэ-с-са!
Пагарда і грэблівасць,
якія былі ў тваім голасе,
не давалі мне шанцаў
пазбыцца
гэтага
ганебнага
таўра.

## СЯБРОЎКА

Толькі Таёта
ў мяне засталася
ў сяброўках,
астатнія
ня вытрымалі
выпрабаванння
поглядам таго,
хто зрэдчас
зазірае да нас
з Таётай.

## ПАРУШЭННЕ ПРАВІЛАЎ ДАРОЖНАГА РУХУ

Дзень пачаўся
смугой заваконнай,
пасланай прыродай
ці боскаю карай
за ўсе мае вінныя
збродныя ночы,
ці проста праявай
схварэлых вачэй.
А тут шчэ паштарка
з казённай капэртай
ад дарожных мянтоў.
Разрываю ў трывозе –
няўжо мне расстанне
з Таётаю вернай?
Не тое – спакойна,
спадарыня драйвер,
ты шчэ – ого!
калі можаш так гойсаць,
як пішуць мянты,
на дваццаць км
перасцігнуць дазвол.
Сплаціўшы патрэбную
карную мзду,
праз пару гадзінаў
вяртаюся ў хату
і бачу раптоўна
ў люстэрку свой фэйс,
адсталы ад часу
на цэлых
дваццаць гадоў.

## ЯШЧЭ

Устаю на досвітку,
каб сустрэць сонейка,
кладуся а шарай гадзіне,
яго правёўшы.
З цемраю днець
мне яшчэ
наначуецца.

## ДНО

Вывуджваю
з забруджанай душы
самых трывушчых
таўстаскурых чуццяў,
а далікатныя даўно згібелі,
ачмурэлі ад атруты
ці зашыліся на дно
ў спадзеве праседзець,
покуль знойдзецца ў каго
чысцейшага
перасяліцца.

## *СПОВЕДЗЬ*

Так.
Так.
Так...
На ўсе дзесяць пытанняў –
толькі сцвярджальны адказ.
Рахунак сумлення майго
перапоўнены.
Я ледзьве ўзнялася з каленяў,
знясіленая шчырасцю.
У дзвярах капліцы
мільгануў жаночы цень.
Матушка.
А як жа яна
адказвае на споведзі
на ўсе пытанні
мужа-святара?

## *ЧЫСЦЕЦ*

Блакітныя зоркі
на срэбнай асноведзі неба –
хіба так выглядае мясціна,
куды нас пашле на правунак
справядлівы Ўладар?
Думаю, неяк інакш.
Не так далікатна
й не так мілажальна,
як гэтая любата
з аксамітнай лістотай
і ядвабнымі кветкамі,
якую чамусьці назвалі –
чысцец.

## І ГЭТАГА ДАСТАТКОВА

Вавёрка гуляе
ў ранішняй
зольнай імжы
прыцьмелага парку
між рыжай лістоты,
сама ўся такая ж рудая.
І гэтага дастаткова
дзеля ўсмешкі
ўвесь сённяшні дзень
дваццаць чацвёртага
тут бясконцага
кастрычніка.

## *НАПАМІН*

Уранні БТ
паказала стары
J:Морсаўскі кліп,
а ў ім –
ты,
такі малады,
мой першы,
мой лепшы,
мой улюбёны
музыка.

## *ДЗЕНЬ АНЁЛА РАМАНА*

Шоў-хлопчык-харошчык,
дзе і з кім ты сёння
ў наш з табою
трыццаць сёмы
дзень лапатання
крылаў анёла
ля правай рукі?

## СОЛЬ У МЁДЗЕ

Хачу пабыць з сынам, –
сказаў мне
мой малодшанькі.
І пайшоў.
Некалі ён сам
пасмакуе
гэтую соль у мёдзе
ад свайго меншанькага,
якога ўжо чакае.

## НЕСМЯРОТНАСЦЬ

У ясны блакіт
тваіх студзеньскіх вачанятаў
улілася зіхоткасць
маіх красавіцкіх зрэнак,
а ў німб залацісты ўпляліся
жнівеньскія жарынкі
твайго зорахвацкага дзеда –
так нашае з ім
невідочнае ўчора
паімкнула
ў тваё далягляднае заўтра
і мы сталі несмяротныя.

## СВЯТЛЕЕ МАРМУР

З сонейкам устаю,
спяшаюся на горачку
пад серабрысты бярэзнік,
каб хутчэй сказаць маме,
што Хрыстос уваскрос
і Яська ўсміхаецца.
Святлее мармур
за агароджаю
і мятлік сядае
на чырвонае яйка.

## ЯСЬ

Заўсёды не любіла
імя майго першага –
Янак –
і выбірала наступных
не па розуме,
знешнасці
ці паспяховасці.
Бо ж ведама –
як карабель назавеш...
А мае тры наступныя
ўдавалі разумных,
выглядалі вабнымі,
сталі выбітнымі.
Ды вось жа пятага
Бог паслаў
з імем першага,
праўда, у іншым,
з шасцідзесяці магчымых,
варыянце,
які люблю цяпер
найболей.

## *ЧЫЯ ЎСМЕШКА?*

Два гады
ўсё гадала й гадала,
чыя ж у яго
заварожна-жартоўная
ўсмешка.
Маміна?
Калі ветла страчае мяне
ці какетліва мружыць
свае зыркія вочкі
ў прадчуванні
сужэнцкай кунегі?
Татава?
Асіметрычнай гарэзай
пад правае вуха
ў гуморны настрой,
ці сонцам паўдзённым
у поўнай мілосці?
Сёння ўрэшце
адгадку дала
амальгама
прыцьмелага люстра.
Як даўно
я ў яго
не глядзелася!

## *ПЕРАМЯНЕННЕ*

Скончыўся час
дэманстрацыі чарак.
Высяляю іх
з мамінага серванта
ў бацькаў буфет
і на вызваленую прастору
наладжваю ўлазіны
безыменным і знаным
казачнікам.
Брашуркі,
томікі,
фаліянты
распрамляюць
зляжалыя спіны
і ўсцешна выпростваюць
рукі насустрач
жвавым
Яськавым
пальчыкам.

## *ТРОЕ Ў СУСВЕЦЕ*

Мы гулялі ў Бая,
каторы бег па сцяне
ў чырвоным каптане.
Дзве пары пальцаў
шпарка імчалі
па прыцьмелай кватэры
ды ўскочылі на падвоканне,
за якім на бэзавым небе
вымалёўваўся маладзік.
Бай знерухомеў,
зніякавеў
і знік вокамгненна.
А мой двухгадовы
кампаньён па гульні
ўрачыста абвесціў,
хто ў гэты вечар
валадарыць сусветам –
Ясь,
Баба
і Месячык.

## СЕМ + Я

Сем у мяне сямейнікаў
па гэты бок
і сем па той.
А я між імі –
памочніцай гэтасветным
і плакальшчыцай па тых.
Хутка парушу раўнавагу,
і хто тады
замовіць слоўка
за здароўе тутэйшых
і за спакой тагасветных?

## ЛЯ МАМІНАЙ МАГІЛЫ

Мэта любога падарожжа –
прыпынак.
Вось ён –
мамін.
А побач –
вольнае месца.
Каго чакае яно
з працяглай вандроўкі?

## *СНЯЦЦА МОГІЛКІ*

Сняцца могілкі –
між мамай,
якая паводле замуства
мусіла быць Аксак,
але не толькі засталася сама
па сваім бацьку Гуцьку,
а шчэ й майго будучага бацьку
на гэтае прозвішча запісала,
і цёткай,
якая як жыла Аксак,
так і памерла Аксак,
бо заўсёды была
толькі бацькавай сястрой
і дзедавай дачкой.
Між мамай і цёткай –
прастора,
толькі краты агароджы,
бо так трэба
аддзяляць усіх дарослых
і на могілках
паводле шлюбнага звычаю.
І шчэ там магілка бабы Надзі,
якую пярун забіў,
калі бацьку было толькі 10.
Мой бацька Аксак насамрэч
чакае на месца спачыну
побач з мамай маёю
спрадвечнаю Гуцька,
а я чакаю раю
між дзедам Аксак
і цёткай Аксак.

## ***ПАСЛАННІЦА***

Ластавачка
ўляцела ў сені,
хоча віць
тут гняздзечка.
Відаць,
мама яе паслала,
каторы год
з сумам гледзячы
на пустую хату.

### *ЗМЕНА ЖАНРУ*

Смерць –
гэта калі кіно
ператвараецца
ў фатаграфію.

## *БЕЗ ГУМАРУ*

Смерць –
кабета без гумару.
І таму
сваіх антыподаў
яна выбірае найперш –
Сержука,
Юру,
Сакульскага...

## ЗНЯМЕННЕ

Цяжка
стала гаварыць –
словы, як камяні,
ледзьве варочаюцца ў роце.
Балюча
стала гаварыць –
словы, як мёртвае немаўля,
з кроўю змушана выдзіраць
з вантробаў.
Страшна
стала гаварыць –
словы, як першыя хрысціяне,
хаваюцца ў катакомбах
здзічэлае душы.

## *МУЛЯЕ*

Прачынаюся
сярод ночы –
муляе
няўдалае
слова
вечара.

## *ПІЛІГРЫМКА*

Як нам спяваць
хвалу Госпаду
на чужой зямлі?

## *НА ГАЛГОФЕ*

Спачатку былі габрэі.
А потым – усе іншыя.
Прынамсі, між нас –
хрысціян разнаскурых,
што тоўпяцца тут
дзень пры дні
праз стагоддзі
ў спадзеве
вымаліць права
кожны сабе
на покліч пачуты:
«Хрысце – мой Божа!..»

## ГРЭХ

Пабітым сабачкам
стаю
ля Тваўго
парога.
Літасць
Твая
бязмежная.
Неабсяжны
мой грэх.

## ***ПРЫЛЮДНЯЕМСЯ***

Жыць –
гэта рабіць балюча іншым,
а праз іх
і самому сабе, –
выгукнуў калісьці сам-насам
Альбер Камю.
Толькі ўпотайкі напоўніцу
можна й пацешыць сябе
гэтым выкшталцоным
садамазахізмам.
Прылюдна мы не жывём.
Прылюдняемся.

## ПОСТ

Такое
задушнае
лета –
вячэраю
вадою.

### ***ШЧАСЦЕ***

Споведзь.
Пост.
Пакаянне.
Малітва.
Спакой.

## *КУРТАТЫ ШВЭДРЫК*

Павярнула на восень.
Час даставаць пруткі
і ніткі з воўны бухматай
ды мераць іх даўжынёю
штораз карацейшыя ўзоры.
Да Калядаў
клубкі разаўюцца
ды выйдзе
швэдрык куртаты.

## *ВОСЕНЬ*

Запозненая ружа –
згубленыя барвы,
перасмяглыя пялёсткі,
выснажаны водар –
сэрца збалелае маці.

## НА КАЛЯДЫ

Доля мая
хлебавая,
салявая,
здаравейкая.
Пашлі мне,
добры Божа,
яшчэ і
словадзейную.

## НОВЫ ГОД

Усё скончылася.
І віно маё –
таксама.
Толькі бочка старая
патрэсканая
яшчэ спадзяецца
зноў напоўніцца
да краёў.

## *СТАРЫ НОВЫ ГОД*

Доўгімі
«крывымі вечарамі»
пакутую
за грахі «піліпаўкі».
Новыя правіны.
Старая споведзь.
Асалода наўвеце.

## *ВЯЛІКДЗЕНЬ*

Раніца.
Сонца ў вакне.
На небе
белая хмарка
з пакутным лікам
Ісуса Хрыста.

## *НЕЛЬГА*

Хочацца ўкленчыць,
а нельга –
Хрыстос уваскрос.

## *ВІЛЕНСКІЯ СЦЕЖКІ*

Да высокае Вострабрамскай,
да ўтрапёнага Кастуся,
да наструненай Ганны,
да непатопнага Язафата –
і можна вяртацца
ў зварушны побыт,
трымаючы ў нерушы
квадратуру быцця.

## НЯДЗЕЛЯ

Уранні – царква,
увечары – танцы,
між гэтым –
крыху калупання
ў кватніцах.
Вось дзень мой
нядзельны.
Усё ў ім святочна,
усё наймілейша,
адно што схавацца
ізноў не ўдалося.
На імшы й на ігрышчы
ня шчыльна між нашых,
хіба што між ружаў
ніхто не загледзіць,
апроч іх саміх.

## *РАЗВІТАННЕ З САДАМ*

Недацвілую ружу
прыхопяць марозы
і пойдзе пад снег
скамянелая кроў,
красавіцкім дасвеццем
адцінак змарнелы
хтось зрэжа –
не ўбачу таго.

## ІНШАГА РАЮ НЕ БУДЗЕ

40 тыдняў
кунежыцца немаўля
ў райскім цемрыве
і аднойчы
вынырвае радасна
ў светлае пекла.
40 дзён
блукае душа
над роднымі краявідамі,
скідваючы цяжар
пякельнага быту
прад будучым райскім
бязважкім нябытам.
40 гадоў
пакутуюць сужэнцы,
гадуючы сподзеў
на рай перад раем,
каб рэштаю год усвядоміць,
што іншага раю
за той,
што мінуў,
ім не дадзена ўведаць.

## ЗМЕСТ

## Сцісла пра аўтара

Валянціна Аксак нарадзілася
ў 1953 годзе ў вёсцы Смалічы на Нясвіжчыне.
Аўтарка кніг «Цвінтар» (1992),
«Капліца» (1994), «Антычны дождж» (1999),
«Віно з Каліфорніі» (2003),
«Ружоўніца» (2008).
Лаўрэатка прэміі «Залаты апостраф».
Жыве ў Мінску.

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў».
Выпуск 18

**Валянціна Аксак**

**Дзікая сліва**

*Вершы*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Барыс Пятровіч*
Мастак *Зміцер Шыла*
Вёрстка *Хведара Сумкіна*
Карэктар *Віктар Іваноў*

Падпісана да друку 3.11.2015. Фармат 84х108 1/32.
Папера афсетная. Рызаграфія. Ум. друк. арк. 5,46.
Ул.-выд. арк. 3,38. Наклад 200 ас. Зак. 482.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ААТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/167 ад 01.10.2014.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.